**ПРАІГНАРАВАНЫЯ МЕРКАВАННІ**




10 ТЫСЯЧ СВЕТЛАГОРЦАЎ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**ТАЛЕНАВІТЫЯ СПАРТСМЕНЫ**

НЕ ЎТРЫМЛІВАЮЦЦА Ў БЕЛАРУСІ



СТАР. 6–7

**БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** 30.08.12-05.09.12 г.


# СІМПТАМАТЫЧНЫ "КАМБЭК" КАБЯКОВА

"Найцікавейшым з'яўляецца тое, хто зойме вакантнае крэсла кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі" – пісала "Тут і цяпер" на мінулым тыдні, паведамляючы пра перамяшчэнне Уладзіміра Макея на пасаду міністра замежных спраў. Адказ на гэта пытанне не прымусіў сябе доўга чакаць.



*Імклівы кар'ерны рост мае і свае мінусы…*

## "ДЫЯПРАЕКТАР" ЯК КУЗНЯ ВЫШЭЙШАГА КІРАЎНІЦТВА

27 жніўня Аляксандр Лукашэнка прызначыў кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі Андрэя Кабякова. З гэтай нагоды варта прыгледзецца да асобы, якая цяпер займае фактычна другую-трэцюю пасаду ў дзяржаве.

Кар'ерны ўзлёт Кабякова пачаўся ў 1995 годзе, калі з намесніка дырэктара рагачоўскага завода "Дыяпраектар" ён раптам зрабіўся таксама намеснікам, але ўжо прэзідэнцкай службы кантролю (гэтаму паспрыяў Васіль Далгалёў, яшчэ адзін вылучэнец з таго прадпрыемства, які падтрымаў Аляксандра Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах 1994 г.).

Праз пяць гадоў мы бачым Кабякова ўжо намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі.

У гэтым статусе ён затрымаўся ажно на 10 год. А ў снежні 2010-га атрымаў прызначэнне ў прэзідэнцкую адміністрацыю. Здагадайцеся, на якую пасаду… Намеснікам кіраўніка.

Праўда, з Карла Маркса, 38 Кабякова хутка перавялі на Марасейку, 17/6. Менавіта там у Маскве знаходзіцца беларускае пасольства.

Аднак праз 9 з паловай не тыдняў, а месяцаў адбыўся "камбэк" (зварот з англ. – аўт.). І гэтым разам Кабякова зрабілі ўжо не намеснікам, а кіраўніком. Па-першае, у Маскве Кабякоў змяніў Далгалёва. Па-другое, менавіта апошняга нядаўна "сваталі" на кіраўніцтва прэзідэнцкай адміністрацыяй.

Дарэчы, расійская сталіца – малая радзіма Кабякова. Там будучы кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі жыў да трохгадовага ўзросту, а потым яго сям'я пераехала ў Беларусь. Аднак жонку Кабякоў усё роўна знайшоў у Маскве.

> "Падчас візіту ў Мінск расійскі прэзідэнт, заўважыўшы за сталом Андрэя Кабякова, іранічна заўважыў: "Столько крови он у меня выпил за последние годы, а его ещё к нам в Москву прислали, чтобы остатки у меня выпить".

## БЕЛАРУСЬ АБАВЯЗАНАЯ СВАЁЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦЮ… ЛЕНІНУ

Таму зусім не здзіўляе наступны выпадак. У кастрычніку 2008-га Кабякоў у Доме ўрада сустракаўся з прадстаўнікамі заходніх СМІ. І раптам адзін з журналістаў, тыцнуўшы пальцам у кірунку помніка Леніну, спытаўся, ці не лепш было б прыбраць манумент, каб не палохаць замежных інвестараў. Водпаведзь Кабякова заслугоўвае таго, каб яе працытаваць:

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## ЗАТРЫМАНЫЯ АДМІНІСТРАТАРЫ САЦСЕТАК

Апоўдні 30 жніўня на працу да маці Паўла Еўціхіева прыйшлі двое мужчын у цывільным і запатрабавалі праехаць дадому па справе сына. Каля пад'езда іх чакалі яшчэ чацвёра, на думку жанчыны, супрацоўнікаў КДБ, паведамляе spring96.org.

Яны падняліся ў кватэру і ў яе прысутнасці дапыталі Паўла.

Іх цікавілі стасункі з нейкім Раманам (верагодна Пратасевіч) і дачыненне да інтэрнэтаўскай суполкі «Вконтакте» «Ляпис Трубецкой — бесплатныйконцерт в Минске». Пыталіся яны таксама і пра паролі ад суполкі. На ўсе пытанні Павел адказваў:

«Не ведаю нікога і нічога, а пра сяброў сведчыць не буду».

Праз некаторы час былі выкліканыя супрацоўнікі міліцыі Кастрычніцкага РУУСа Мінска, якія забралі з сабой Паўла і ягоны хатні камп'ютар.

Таксама затрыманыя Раман Пратасевіч, Андрэй Ткачоў, Сяргей Бяспалы і некалькі іншых людзей, якія адміністравалі суполкі «Ляпис Трубецкой — бесплатный концерт в Минске», «Надоел нам этот Лукашенко» ў сацыяльных сетках.

На момант падпісання нумара ў свет іншай інфармацыі пра затрыманых не было.

# А ВЫ ПАДТРЫМЛІВАЕЦЕ “PUSSY RIOTS”?

Сусветная кампанія ў падтрымку расійскай панк-групы “Pussy Riot”, тры ўдзельніцы якой нядаўна атрымалі 2 гады калоніі агульнага рэжыму за “панк-малебен” у храме Хрыста Выратавальніка, толькі набірае абароты. 22 жніўня вядомая амерыканская рок-група “Kiss” таксама падтрымала расіянак. Раней у іх абарону выказваліся Мадонна, Пол Макартні, іншыя знакамітыя людзі планеты. “Тут і цяпер” высвятляла, як ставяцца да “Pussy Riot” вядомыя і шараговыя беларусы.



*У гэтай цьмянай справе бачаць і руку Пуціна*

**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН, ПАЭТ:**

### “У АДНОСІНАХ ДА ІХ НІ ДЗЯРЖАВЕ, НІ ЦАРКВЕ ТАК ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ НЕЛЬГА”.

– Іх учынак у мяне не выклікае ніякіх станоўчых эмоцый. Больш за тое, я лічу, што выбралі яны і месца не надта ўдалае, і форму не самую лепшую. Але я катэгарычна супраць таго прысуду, які ім вынесены. Бо гэта, ці то па няведанні, ці то па наіўнасці, ці то па дурасці, было такое дробнае хуліганства. І адпаведна за гэта хуліганства іх трэба было караць. А чамусьці вырашылі караць па самай высокай планцы. Па нейкай прычыне з акцыі зрабілі паказальны працэс. Прытым вывелі гэта ўсё не толькі на дзяржаўны, але і на міждзяржаўны ўзровень. І, бясспрэчна, за гэтым усім я бачу дзве чорныя цені, якія зліваюцца ў адну — Прэзідэнт Уладзімір Пуцін і Патрыярх Кірыл. Непрыемна для мяне тое, што такім чынам яны пра сябе нагадалі. Але дзяўчат шкада. Спадзяюся, што ім усё ж такі зменяць меру пакарання. Урок яны ўжо атрымалі на ўсё жыццё. Аднак так паводзіць сябе ні дзяржаве, ні тым больш царкве ў адносінах да іх нельга.

**АЙЦЕЦ ЮРЫЙ ЗАЛОСКА, СВЯТАР МІНСКАГА ПЕТРАПАЎЛАЎСКАГА САБОРА:**

### “ЗА СВАЕ ЎЧЫНКІ ТРЭБА АДКАЗВАЦЬ”.

– На маю думку, у кожным дробным хуліганстве ёсць нешта большае. Нейкія праявы асоб, якія яго ўчынілі. Яны могуць быць розныя: і артыстызм, і псіхалагічны стан, і захворванне. Нешта дадаецца. Я не лічу, што прысуд быў надта суровы. Як кажуць, “за базар трэба адказваць”. Як каму шанцуе. Бывае, у калгасе мужык скрадзе мех зерня. Могуць даць штраф, а часам могуць і на тры гады пасадзіць. За адзін і той жа мех. Як каму пашанцуе. Кожная дзяўчына ў адэкватным стане хоць трошкі, але ведае магчымыя рызыкі і наступствы сваіх дзеянняў. І трэба быць гатовымі адказваць за іх. А як карае лёс — рулетка. Як каму пашанцуе. У мяне спакойнае, філасофскае ўражанне ад гэтай падзеі. Яна дала інфармацыйную нагоду для розных аўтараў. Але гэта другаснае. Дзяўчатам не пашанцавала. Аднак, з іншага боку, будзе вопыт, што часам трэба адказваць. Мы ж адказваем у сферы свецкага жыцця. Я перажываю, але не ўспрымаю гэту гісторыю як трагедыю для асоб, што прымалі ў ёй удзел. Як у святара ў мяне знайшліся б словы нешта ім сказаць, неяк дапамагчы псіхалагічна, маральна.

**ЛЯВОН ВОЛЬСКІ, МУЗЫКА:**

### “МАІХ РЭЛІГІЙНЫХ ПАЧУЦЦЯЎ ЯНЫ НЕ ЗАКРАНУЛІ”.

– Расійскія ўлады паўтараюць памылкі нашага начальства. Ёсць рэчы, якія лепей не заўважыць, і будзе карысна для ўсіх. А яны ўзялі і зрабілі з гэтага піяр акцыі “PUSSY RIOTS”і антыпіяр судовай сістэме. Можна ж не заўважаць нейкіх канцэртаў, на якіх выказваюцца пэўныя вальнадумствы. А можна ўзяць і зрабіць “чорны спіс”, каб пра гэта даведаўся ўвесь свет. Што ёсць гурты, якія супраць і не хаваюць такую пазіцыю. Апроч усяго, я праваслаўны. Але мае рэлігійныя пачуцці яны ніяк не закранулі. На папоў і да гэтай гісторыі было брыдка глядзець. З усімі іх “ролексамі”, віламі і “мерседэсамі”. Карацей, рэлігія, вера і царква – гэта розныя рэчы.

**АЛЕСЬ АНЦІПЕНКА, ФІЛОСАФ:**

### “Я СУМНЯВАЮСЯ Ў ГЛЫБІНІ ПАЧУЦЦЯЎ ТЫХ, КАГО ТАКІМ ЧЫНАМ АБРАЗІЛІ”.

– Для мяне штодзённае рэлігійнае жыццё з’яўляецца рэальнасцю. Для мяне гэта паглыбленне ў самога сябе. Мае пачуцці можна параўнаць з тым, што ёсць пад паверхняй. А тое, што адбываецца на паверхні, мяне ніяк не закранае. Людзей, што існуюць у фармаце сацыяльна-рэлігійных пачуццяў, могуць хваляваць нейкія выказванні палітыкаў ці падобныя акцыі. Насамрэч, калі людзі пачынаюць заяўляць, што гэта абражае іх рэлігійныя пачуцці, я пачынаю сумнявацца ў іх глыбіні. А наконт прысуду — жорстка. Гэта амаль што дзеці. Варта было б ім патлумачыць, даць умоўнае пакаранне і адпусціць. Яны яшчэ не разумеюць, што зрабілі. У такім узросце маладыя людзі — максімалісты.

**ВЕРА, СТУДЭНТКА:**

### “ДВА ГАДЫ ЗА ТАКІ ПІЯР – ГЭТА НЯМНОГА”.

– Падтрымаць “PUSSY RIOTS” неяк фізічна ў мяне няма магчымасці. Дарагія білеты да Масквы. Падтрымаць іх сімвалічна у мяне не хапае імпэту. Але, думаю, яны перажывуць без майго садзейнічання. Дзяўчынкі для свайго піяру выбралі найлепшае месца, найлепшы час, найлепшую для гэтага краіну. І два гады калоніі не самая вялікая цана для такой раскруткі ўласнага імя. Каб цябе абаранялі Мадонна і Макартні, каб пра цябе гаварылі Барыс Акунін і Дзмітрый Быкаў, каб з-за цябе Каспараў “кусаў” міліцыянераў. З нікому невядомых хуліганак “пуські” ператварыліся ў бязвінных ахвяр. А Пуцін з Гундзяевым паўсталі ў вобразах нейкіх злыдняў і цемрашалаў. Ну хіба гэта не варта нейкіх двух гадоў?

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# СІМПТАМАТЫЧНЫ "КАМБЭК" КАБЯКОВА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

"Именно тому человеку, памятник которому стоит, Беларусь обязана тем, что она впервые приобрела свою государственность. В виде сперва Белорусско-Литовской Советской Социалистической Республики в 1919-м, а затем будучи в составе СССР. Стала членом ООН. В 1945 году Беларусь стала членом ООН и была учредителем Организации Объединённых Наций. Поэтому роль этого человека в истории Беларуси достаточно высокая. И не всегда она негативная, как, может, кто-то её пытается подать".

## МЕЦЬ СВОЙ ПАЛІТЫЧНЫ ТВАР НЕАБАВЯЗКОВА

Савецкая ментальнасць – гэта адна з галоўных прычын, чаму Кабякоў трапіў у каманду Лукашэнкі і затрымаўся ў ёй. Аднак ёсць у новага кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі і іншыя вартасці. У прыватнасці, найлепшую рэкламу яму зрабіў літаральна тры месяцы таму Уладзімір Пуцін. Падчас візіту ў Мінск расійскі прэзідэнт, заўважыўшы за сталом Андрэя Кабякова, іранічна заўважыў: "Столько крови он у меня выпил за последние годы, а его ещё к нам в Москву прислали, чтобы остатки у меня выпить".

Пасля гэтага, гавораць, за Кабяковым і замацавалася жартаўлівая мянушка "Крывасмок". Яго новае прызначэнне сведчыць пра тое, што Лукашэнку патрэбна на чале прэзідэнцкай адміністрацыі тэхнічная фігура, якая будзе проста выконваць распараджэнні. Кабякоў, які ў свой час вёў перамовы і з расійскім урадам, і з Міжнародным валютным фондам, і з прадстаўнікамі Еўрасаюза, адпавядае гэтаму патрабаванню. Ён не мае нават мінімальнага ўласнага палітычнага твару. Гэтага дастаткова, каб у сучаснай Беларусі займаць вельмі высокія дзяржаўныя пасады.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# НЕ ПУДРЫЦЬ ЛЮДЗЯМ МАЗГІ

Кандыдат у дэпутаты генерал-маёр Валерый Фралоў быў адным з першых, каго запрасілі ў Белтэлерадыёкампанію для запісу перадвыбарчага выступу.

Сеткавая газета «Тут і цяпер» распытала палітыка не толькі пра тэлевізійнае закуліссе.

**— Валерый Дзмітрыевіч, скажыце шчыра: як навакольныя і блізкія адрэагавалі на тое, што вас ўсё ж зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты?**

— На здзіўленне, званкоў было шмат. Хтосьці шчыра віншаваў, хтосьці тэлефанаваў са скептычнай усмешачкай. Але я не крыўджуся. Паміж намі кажучы, сам я не моцна спадзяваўся, што прайду рэгістрацыю...

**— А вы і сапраўды верыце, што можаце трапіць у парламент?**

— Марыць можна пра што заўгодна. Асаблівых надзей, канешне, няма. Але на ўсё, як гаворыцца, божая воля.

**— Вам неяк вельмі хутка прапанавалі выступіць на тэлебачанні. Груба кажучы, учора зарэгістравалі, на заўтра ўручылі пасведчанне кандыдацкае, а сёння ўжо выступаць.**

— Я не бачу ў гэтым ніякіх падводных камянёў. І не асоба ўнікаў ў механізмы. Хваляваўся, вядома. І ішоў на тэлебачанне ў такой страшнай разгубленасці... Калі патэлефанавалі тэлевізіёншчыкі, я зразумеў, што ўвогуле пакуль не ўяўляю, пра што гаварыць. Быццам бы і распавесці ёсць пра што, і тэм важных вельмі шмат, але ж ты абмежаваны ўсяго пяццю хвілінамі!..



*Цэнзура зараз выразае ўсё "недазволенае" са с пічаў апазіцыйных кандыдатаў*

**— Дык а пра што ў рэшце рэшт казалі? І з паперкі чыталі або свабодна перад камерай сябе адчувалі?**

— Я накідаў на лісток некаторыя тэзісы. Не хочацца людзям хлусіць, як робяць некаторыя кандыдаты ў сваіх перадвыбарчых выступах. Сказаў шчыра, што знаёмы з многімі вялікімі начальнікамі, у тым ліку і тымі, хто мае значную вагу і аўтарытэт на тэрыторыі маёй выбарчай акругі. І што з імі магу вырашаць любыя пытанні. Таму што з аднымі сябрую, з іншымі знаёмы яшчэ з даўніх часоў.

**— Вось вы смяецеся, а некаторыя кажуць, што Фралоў пайшоў на выбары, таму што прадаўся уладзе.**

— Ды чуў я ўсе гэтыя размовы!

Ведаеце, нядаўна перачытваў Варлама Шаламава і наткнуўся ў яго на такую думку: маўляў, не буду падладжвацца ні пад меркаванне вялікіх, ні пад меркаванне не вельмі вялікіх, у мяне ёсць сваё ўласнае, і менавіта яно — мае поспехі і паразы. І мне гэтая думка спадабалася. У нас шмат герояў, якія людской крыві не бачылі, а заклікаюць да нейкіх радыкальных дзеянняў. Пры гэтым я перакананы, што самі гэтыя «змагары» з канапы не ўстануць, а народ правакуюць!

Па шчырасці, я ўжо даўно ведаю, якая я сволач — у інтэрнэце на форумах пра сябе такога начытаешся... (усміхаецца) Не звяртаю ўвагі на такія размовы. Хай гавораць. А я справу рабіць буду.

**— Як вы ставіцеся да тых, хто заклікае да байкоту?**

— Лічу, што байкот — гэта бессэнсоўны занятак. І не рэальна яго арганізаваць.

**— Ну вось трапіце вы ў парламент, і што далей? Усё роўна ў нас дэпутаты ні на што не ўплываюць...**

— Я не згодны. У рангу дэпутата можна вырашаць многія пытанні. Гэта зусім іншы ўзровень, стаўленне людзей. Ты можаш арганізоўваць дэпутацкія запыты, задаваць пытанні чальцам урада і атрымліваць на іх амаль імгненныя адказы. Калі дэпутат сапраўды працуе, а не штаны прасіджвае, ён на шмат што можа паўплываць. І калі дэпутат здолеў дапамагчы хаця б 100 чалавекам, то ўжо вялікі плюс. Я працаваў у парламенце і ведаю, пра што кажу. Таму іду ў Палату прадстаўнікоў, каб прынесці людзям карысць.

**— Валерый Дзмітрыевіч, ведаю, што ваша жонка быццам бы не вельмі хацела, каб вы займаліся палітыкай. Сямейных скандалаў з-за парламенцкай кампаніі не ўзнікала?**

— Я ёй растлумачыў, што жонкай дэпутата быць лепш, чым жонкай пенсіянера (смяецца). А калі сур'ёзна, то яна была сябрам маёй ініцыятыўнай групы, подпісы за мяне збірала. Наташа ў Чыжоўцы даўно жыве, ўсіх ведае, так што агітуе народ за мяне ...

**МАРЫНА МІТ**

# ПРАІГНАРАВАНЫЯ МЕРКАВАННІ

## Новы хімічны завод у Светлагорску: жыхары – супраць, улады – за.




*Гэта толькі знешне цэлюлоза выглядае дастаткова прыбаўліва*

### І БУДЗЕ ВАМ ШЧАСЦЕ

Пра будаўніцтва ў Светлагорску завода беленай сульфатнай цэлюлозы ўсур'ёз сталі гаварыць хіба вясной 2007 года. А праз тры гады кітайская карпарацыя інжынерынгу "КАМСЕ" падпісала дамову пра будаўніцтва гэтага самага прадпрыемства.

Яго гадавая магутнасць – 400 тысяч тон цэлюлозы, якую выкарыстаюць для вырабу газетнай і пішучай паперы.

З беларускага боку падпісантам стала ААТ "Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат". Фінансаваць новабудоўлю ўзяўся кітайскі "Эксімбанк" – ён заявіў пра выдзяленне крэдыту ў памеры 654 мільёны долараў ЗША. Яшчэ 115 мільёнаў збіраецца выдаткаваць на праект беларускі бок.

Новы завод вырашылі "пасадзіць" побач з цэлюлозна-кардонным камбінатам – за 2 кіламетры ад горада і за 800 метраў ад вёскі Якімава Слабада.

Як толькі светлагорцы даведаліся пра месца прывязкі завода, то запратэставалі.

У студзені мясцовыя ўлады склікалі ў гарадскім цэнтры культуры сход, каб абмеркаваць справаздачу рэспубліканскага навукова-даследчага прадпрыемства "БелНДЦ "Экалогія" наконт будаўніцтва цэлюлознага завода. Атмасфера ў паўтысячнай зале накалілася. Многія гараджане выказаліся супраць. Аднак сход не прыняў ніякай рэзалюцыі, хаця ўдзельнікі яго прапаноўвалі адмовіцца ад будаўніцтва ў горадзе яшчэ аднаго хімічнага прадпрыемства. Галасаванню пярэчылі вядучыя схода з райвыканкама, у прыватнасці намеснік старшыні Сяргей Мяркулаў. І тады прагучала прапанова стварыць грамадскую камісію дзеля вывучэння ўздзеяння на навакольнае асяроддзе завода па вытворчасці сульфатнай беленай цэлюлозы.

У склад грамадскай камісіі ўвайшлі 12 чалавек, яе ўзначаліў мясцовы актывіст Тэльман Маслюкоў.

Спіс гараджане падалі ў райвыканкам, каб у камісію дадалі прадстаўнікоў выканкама, інспекцыі па ахове прыроды і цэлюлозна-кардоннага камбіната.

Аднак на ініцыятыву прыйшла афіцыйная адмова за подпісамі старшынь выканкама і райсавета Сяргея Максіменкі і Галіны Філіповіч. Пры гэтым чыноўнікі спасляліся на Орхускую канвенцыю, паводле якой стварэнне грамадскай камісіі альбо кансультатыўнага савета наогул не прадугледжана.

### А ГАРАДЖАНЕ НЕ ЖАДАЮЦЬ

Выглядала так, што ўладам меркаванне светлагорцаў наконт будаўніцтва яшчэ аднаго хімічнага прадпрыемства, як кажуць, ні ішло, ні ехала, таму грамадская камісія вырашыла збіраць подпісы супраць новага завода. Гараджане і жыхары Якімавай Слабады самі шукалі зборшчыкаў, каб сваімі подпісамі выказаць нязгоду. І гэта зразумела. Паводле навукова-даследчага цэнтра "Экалогія", ужо зараз мяжа дапушчальнай канцэнтрацыі па серавадародзе на ўскрайку вёскі Якімава Слабада перавышана ў 2,4 разу, па серавуглярodзе – у 4,9 разу. Па іншых групах шкодных рэчываў – аміяку, фармальдэгідзе, дыяксідзе серы, дыніле – агульнае перавышэнне ў 2,8 разу. Гараджане не жадаюць, каб і без таго няпростая экалагічная сітуацыя яшчэ больш ускладнілася разам са з'яўленнем чарговай хімічнай вытворчасці – у дадатак да ВА "Хімвалакно", ЦЭЦ і цэлюлозна-кардоннага камбіната.

Будаваць такі завод, атрымліваць валюту, зарабляць грошы, ахвяруючы жыццямі людзей – гэта няправільна.

Былы настаўнік Тэльман Маслюкоў, адзін з 12 гараджан, якога грамада вылучыла каардынатарам грамадскай камісіі, лічыць, што цэнтралізаваная "вертыкаль" і падкантрольныя ёй саветы не здольны вырашаць мясцовыя пытанні ў згодзе з меркаваннем мясцовага насельніцтва: "Паколькі ў нас органы мясцовага кіравання з' яўляюцца часткай дзяржаўнай улады, а не самастойнай ступенню, як у краінах Еўропы, то ім даводзіцца выконваць тыя ўказанні, якія паступаюць ад урада. І, відаць, яны

атрымалі ўжо ўказанне спрыяць будаўніцтву гэтага прадпрыемства ў горадзе. Таму стварэнне грамадскай камісіі не стасуецца з гэтымі планамі".

Тым часам звыш 10 тысяч гараджан з 70 тысяч, што жывуць у Светлагорску, падпісаліся супраць завода беленай цэлюлозы. Але дасланыя ў адміністрацыю прэзідэнта і ва ўрад подпісы перакінулі ў Міністэрства прыродных

**АФІЦЫЙНА**

### ШКОДНЫЯ РЭЧЫВЫ – РОСТ У 10 РАЗОЎ!

Афіцыйныя ўлады цяпер нават не ўзгадваюць пра 10 тысяч подпісаў, якія сабраны ў горадзе супраць будаўніцтва яшчэ аднаго хімічнага прадпрыемства і накіраваны ў адміністрацыю прэзідэнта, Саўмін і Пасольства Кітая, на чый крэдыт збіраюцца будаваць у Светлагорску завод беленай цэлюлозы. Подпісы засталіся быццам па-за грамадскімі слуханнямі, якія зладзіў райвыканкам. Між тым людзей турбуе тое, што нават па афіцыйных звестках, якія ўключаны ў справаздачу ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, колькасць шкодных рэчываў, што выкідваюцца ў атмасферу Светлагорска, пасля ўзвядзення новага хімічнага завода павялічыцца ў 10 разоў.

"Яны "соблюли процедуру", – кажа Вадзім Болбас, адзін з тых, хто запісаўся на выступ, але не выступіў на грамадскіх слуханнях. – Працэдура слуханняў распісана так, што людзям закрылі рот. Меркаванні 10 тысяч светлагорцаў цынічна праігнаравалі".

# 10 ТЫСЯЧ СВЕТЛАГОРЦАЎ

рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. І там подпісы, відаць, патрапілі нібы ў багну – толькі хованкі пайшлі.

"Будаваць такі завод, – кажа светлагорац Юрый, – атрымліваць валюту, зарабляць грошы, ахвяруючы жыццямі людзей – гэта няправільна".

Гараджанка Іна дадае: "Любы рух наперад, любое развіццё заснавана на дыялогу паміж уладай і грамадствам. У нашым горадзе недастаткова гэтага сацыяльнага капіталу".

Яшчэ больш катэгарычнае меркаванне выказвае наконт намеру ўлад пабудаваць побач з горадам вытворчасць сульфатнай беленай цэлюлозы гараджанін Анатоль: "Напачатку ўжо закладваюць пад горад міну замаруджанага дзеяння – пад здароўе людзей. Гэта, па сутнасці, акт экалагічнага тэрарызму супраць жыхароў горада".

Незалежных журналістаў трымалі ў міліцыі гадзінамі

Светлагорцы не сядзелі склаўшы рукі. Яны запрашалі незалежных журналістаў, каб тыя распавялі пра іх стаўленне да новага хімічнага прадпрыемства. Жыхары Якімавай Слабады сталі патрабаваць ад Баравікоўскага сельсавета правядзення рэферэндуму: давайце вырашаць грамадой. Пра рэферэндум выказваліся і многія гараджане. Аднак прапановы па розных прычынах адхілялі. Незалежных журналістаў і валанцёраў міліцыя перапыняла, вазіла ў райаддзел, трымала там іх гадзінамі, патрабавала тлумачэнні.

У другой палове жніўня улады нібыта адумаліся – абвясцілі пра сход гараджан у гарадскім цэнтры культуры дзеля грамадскага абмеркавання ўздзеяння на навакольнае асяроддзе новага хімічнага прадпрыемства.

Неабыякавыя да будаўніцтва гараджане яшчэ да пачатку так званага грамадскага слухання казалі пра "мабілізаваных" асоб пры пасадах – і ад прадпрыемстваў, і ад арганізацый. "Мабілізаваныя", дарэчы, праявілі сябе запіскамі ў падтрымку завода.

"У зале ў асноўным сядзяць ідэалагічныя работнікі прадпрыемстваў, сярэдняй рукі начальнікі – з "Хімвалакна", цэлюлозна-кардоннага камбіната, камунгаса – ад кожнага прадпрыемства. Думаю, што ўлады зробяць так, як яны хочуць. Яны душаць народ і не звяртаюць увагі на меркаванне людзей", — кажа гараджанка Таццяна.




За колькі хвілін да пачатку слуханняў дзверы ў памяшканне зачынілі, выставілі міліцыянераў. Каля паўсотні гараджан так і засталіся ў фае.

Тым часам вядучы схода намеснік старшыні райвыканкама і кіраўнік райвыканкамаўскай камісіі па правядзенні грамадскіх слуханняў Сяргей Мяркулаў папярэдзіў грамаду: "Усе пытанні, якія падрыхтаваны наперад і якія ўзнікнуць падчас нашай працы, у пісьмовым выглядзе перадайце ў сакратарыят схода. Рэплікі, спробы задаваць пытанні з залы прымацца не будуць – загадзя вас папярэджваю ад імя камісіі".

## ХАРАКТЭРНАЯ ТЭНДЭНЦЫЯ

Прэзентацыя праекта і афіцыйная ацэнка ўздзеяння новай хімічнай вытворчасці на экалогію горада і прыгараднай вёскі Якімава Слабада працягвалася больш за гадзіну. Дакладчыкамі былі дырэктар цэлюлозна-кардоннага камбіната Юрый Крук, загадчыца кафедры хімічнай перапрацоўкі драўніны Беларускага тэхнічнага ўніверсітэта Наталля Чорная, загадчык сектара рэспубліканскага навукова-даследчага цэнтра "Экалогія" Аляксандр Дзямідаў.

Выступоўцы ўсебакова расхвальвалі праект: 400 тысяч тон беленай цэлюлозы ў год, сульфатны спосаб яе адбельвання без выкарыстання малекулярнага хлору, экспарт прадукцыі за мяжу, 501 мільён долараў ЗША — гадавая выручка, 500 новых працоўных месцаў, і нібыта ніякай шкоды для экалогіі, для здароўя людзей. А што ў горадзе адмоўная дэмаграфічная сітуацыя, высокая смяротнасць, рост захворванняў – дык гэта агульная тэндэнцыя і ў рэгіёне, і ў краіне ў цэлым. Прынамсі, так дакладваў загадчык сектара Дзямідаў з цэнтра "Экалогія": "У Светлагорскім раёне сапраўды расце колькасць захворванняў. Але такая тэндэнцыя характэрна практычна для ўсіх раёнаў Гомельскай вобласці, і не толькі Гомельскай".

Гэта выклікала смяшлівую рэакцыю ў зале. Дырэктар кардоннага камбіната Крук з'едліва заўважыў: "Смяецеся, а пра СНІД, пра п'янства забыліся?"

Некаторыя прысутныя гараджане, у прыватнасці, хімік па адукацыі Вадзім Болбас, спрабавалі атрымаць слова дзеля выступу, але вядучы Мяркулаў спасылаўся на рэгламент і зацверджаную Саўмінам працэдуру грамадскіх слуханняў. Сход згарнулі нават раней запланаванага часу.

Старшыня райвыканкама Сяргей Максіменка, намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама Баляслаў Пірштук, намеснік міністра Мінпрыроды Віталь Кулік, што сядзелі ў прэзідыуме, і вядучы схода Мяркулаў праз бакавы выхад хуценька пакінулі памяшканне.

Многія гараджане, абураныя такім грамадскім слуханнем, абступілі доктара тэхнічных навук Наталлю Чорную, дырэктара цэнтра "Экалогія" Валерыя Ключановіча, дробных райвыканкамаўскіх начальнікаў, каб выказаць свае прэтэнзіі: "Нас запісалі на выступленні, а чаму не далі слова? Чаму людзям не дазволілі пытанні задаць? Выклікайце сюды Мяркулава!"

## НЕ ПРЫВАБІЦЬ НІЯКІМІ ПІРАГАМІ

Абураная жыхарка Якімавай Слабады: "Цалкам ігнаруюць нашы меркаванні. Мы фактычна станем закладнікамі гэтага прадпрыемства, калі, не дай бог, яго пабудуюць. Са студзеня, калі былі першыя, так бы мовіць, папярэднія грамадскія слуханні, па сённяшні дзень нікога не можам даклікацца, прывабіць ніякімі пірагамі – ніводнага супрацоўніка дзяржаўных СМІ, ніводнага начальніка, малога ці вялікага. Усе аб'язджаюць Якімаву Слабаду".

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**

# ЧАМУ Ў БЕЛАРУСІ СКЛАДАНА ЎТРЫМАЦЬ ТАЛЕНАВІТЫХ СПАРТСМЕНАЎ

**Будучыя алімпіяды могуць толькі ўзмацніць горкі асадак ад выступлення беларускіх спартсменаў на XXX летніх Алімпійскіх гульнях у Лондане.**

## ПРАВАЛІЛІ ДЫК ПРАВАЛІЛІ

Выступленне беларускіх спартсменаў на XXX летніх Алімпійскіх гульнях у Лондане кіраўніцтва краіны назвала "правальным" і "засмучальным". Замест запланаваных 25 медалёў да фіналу мы прыйшлі толькі з 13.

На ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання чэмпіёнаў і прызёраў Алімпіяды прэзідэнт выказаў сваю незадаволенасць зрывам медальнага плана. "Пры тых адносінах дзяржавы да спорту, як у Беларусі, такія вынікі недазвальяльныя", — абураўся **Аляксандр Лукашэнка**. Ён акцэнтаваў увагу на бліжэйшых алімпіядах у Сочы і Рыа-дэ-Жанейра, намякаючы, што ў спартсменаў, якія так падвялі дзяржаву, яшчэ ёсць шанс рэабілітавацца. Аднак **Аляксандра Герасіменя**, двухразовая сярэбраная прызёрка Алімпіяды ў Лондане, зрабіла важную заўвагу: "На жаль, за мной нікога няма", — сказала яна, нібы папярэджваючы, што за медалі на будучых алімпіядах хутка змагацца не будзе каму.

> "Вельмі добра было б, калі б для спартсменаў высокага ўзроўню існавала вітамінізацыя. Яны вельмі шмат страчваюць энергіі, яе неабходна аднаўляць.

**"Тут і цяпер"** паспрабавала разабрацца, чаму краіна з такой вялікай колькасцю спарткомплексаў рызыкуе сутыкнуцца з дэфіцытам прафесійных спартсменаў.

## ЛЁГКААТЛЕТЫ ПРАХОДЗЯЦЬ НЕЦЫВІЛІЗАВАНЫ АДБОР

**Дзмітрый Малаткоў** (21 год) скончыў кар'еру спартсмена, ледзь яе пачаўшы. Ён займаўся лёгкай атлетыкай 8 гадоў. У 2009 і 2012 ён уваходзіў у дзясятку найлепшых лёгкаатлетаў рэспублікі ў забегу на 400 метраў з бар'ерамі, займаў прызавыя месцы на чэмпіянатах вобласці і рэспублікі, падаваў надзеі і адчуваў у сабе сілы пакараць п'едэсталы і далей. Аднак, паглыбіўшыся ў нетры прафесійнага спорту, Дзмітрый вырашыў больш не траціць свае сілы на барацьбу з ветранымі млынамі. "Я перастаў займацца год таму: не бачыў больш у гэтым сэнсу. Псаваць сваё здароўе і далей упустую мне не хочацца. Я чатыры гады запар займаў толькі першыя і другія месцы на рэспубліканскіх спаборніцтвах. І аднойчы выявіў, што тыя, хто па выніках нават побач са мной не стаяў, раптам атрымліваюць форму нацыянальнай зборнай". Дзмітрый перакананы, што ў лёгкай атлетыцы для спартсмена вырашальны момант у кар'еры — гэта аўтарытэт яго трэнера. "Паедзеш ты ці не на міжнародныя спаборніцтвы, вырашаюць не толькі па выніках. Шмат вызначае трэнер. Калі ён аўтарытэтны, выхаваў калісьці трох майстроў спорту, мяркуецца, што ён ведае толк у трэніроўках. І нават калі яго цяперашні спартсмен выступаў на зборах ці "рэспубліцы" непераканаўча, яго усё роўна будуць браць на "абкатку" на розныя спаборніцтвы. Таму што лічыцца, што ён зможа добра выступіць, няхай не зараз — калі-небудзь. А тыя, хто выйграе спаборніцтвы, не выключана, так і будуць цешыцца рэспубліканскімі чэмпіянатамі".



*На наступных Алімпіядах, можа, нават "двойкі" няма каму будзе выстаўляць нашым*

Дзмітрый неаднаразова выйграваў "рэспубліку". Аднак лёгкаатлет яшчэ не ведаў усіх тонкасцей прафесійнай спартыўнай кухні. "Я не хацеў пераходзіць (да іншага трэнера — заўв. аўт.). Я наіўна верыў, што ў нас усё як у цывілізаваным грамадстве і што мяне па выніках рэспубліканскіх спаборніцтваў возьмуць у нацыянальную зборную".

У гэтым годзе Дзмітрый скончыў факультэт фізічнага выхавання Брэскага педагагічнага ўніверсітэта імя Пушкіна і паехаў па размеркаванні "фізічна акультурваць" школьнікаў Баранавіцкага раёна.

## 100 ЕЎРА ЗА ТОЕ, ШТО ПАДАЕШ НАДЗЕІ

Знікла цікавасць да прафесійнага спорту і ў маладога рапіраста **Сяргея Быка** (22 гады). Майстар спорту міжнароднага класа па фехтаванні, прызёр чэмпіянату Еўропы і фіналіст кубкаў свету сярод юніёраў, Сяргей мае намер завяршыць спартыўную кар'еру з-за фінансавай незадаволенасці. "У нас пачатковая стаўка, калі спартсмен уваходзіць у склад нацыянальнай зборнай — 100 еўра. Так, за другое месца на чэмпіянаце Еўропы мне заплацілі 300 еўра. Але ў Расіі, напрыклад, такая ўзнагарода каштавала б 2500 у.а.".

Сяргей, пабываўшы на розных міжнародных чэмпіянатах і першынствах, прыйшоў да высновы, што фехтаванне — спорт непрыбытковы. "Калі ты не прызёр свету ці не ўвайшоў у 6-ку на Алімпіядзе — усё, ты, можна сказаць, лузер. Мне на адным чэмпіянаце патрэбна было заняць 3—8 месца, я адолеў толькі 9 — усё, не выканаў план. Цяпер я атрымліваю 100 еўра ў месяц як хлопец, які "падае надзеі". Па меркаванні Сяргея, менавіта ў грошах крыецца прычына сыходу перспектыўных спартсменаў з вялікага спорту. "Я, можа, таксама кіну, з такімі зарплатамі. У нас грошы — гэта толькі Алімпіяда, а да яе яшчэ 4 гады чакаць, і то, калі атрымаецца. У гэтым годзе я прайграў у адборы венгерскаму рапірысту і ў Лондан не трапіў". Самымі багатымі спартсменамі ў нашай краіне Сяргей лічыць хакеістаў і футбалістаў. "Добрыя грошы там, дзе ёсць спонсары. А яны ёсць толькі ў гульнявых відах спорту".

## У НЕМЦАЎ ЁСЦЬ СТЫМУЛ ПЕРАМАГАЦЬ, У НАС – НЕ

Зусім юная, але перспектыўная спартсменка **Хрысціна Стараселец** займаецца веславаннем усяго 4 гады. У свае 16, з'яўляючыся самай малодшай вясляркай у сваім заплыве, ушчыльную падабралася да п'едэстала (4 месца ў фінале) на чэмпіянаце свету па веславанні сярод юніёраў. Хрысціна рэгулярна займае прызавыя месцы на абласных, рэспубліканскіх і

міжнародных спаборніцтвах па веславанні сярод юніёраў і спартсменаў да 18 гадоў. За сваю нядоўгую спартыўную кар'еру юная вяслярка таксама паспела расчаравацца ў фінансавым боку свайго захаплення. "За першае месца на "рэспубліцы" нам заплацілі 100 тысяч рублёў, а на мясцовых спаборніцтвах толькі 50 тысяч даюць". За годнае выступленне на чэмпіянаце свету Хрысціна, акрамя медаля, таксама не атрымала ніякага ўзнагароджання. "Нам толькі больш-менш нармальна сутачныя плацілі і на харчаванне. Гэта каб мы добра елі".

Што тычыцца ўзроўню саміх спартсменаў, Хрысціна ўпэўнена, што беларускія весляры ніколькі не слабейшыя за нямецкіх. "Магчыма, у немцаў стымул ёсць: яны ведаюць, што за прызавыя месцы ім заплацяць шмат грошай", — спрабуе раскрыць сакрэт поспеху нямецкіх спартсменаў будучая Карстэн.

Паездкі на сур'ёзныя міжнародныя спаборніцтвы даюць магчымасць маладой спартсменцы ўбачыць, чым беларускія спартсмены адрозніваюцца ад замежных. "У іх фармакалогія развітая. А нам вельмі рэдка які-небудзь "Вітус" дадуць, але гэтага недастаткова для аднаўлення сіл пасля трэніроўкі".

## ВІТАМІНЫ ЦІ МЯСА?

**Аляксандр Папенка**, трэнер Брэсцкага цэнтра алімпійскага рэзерву па акадэмічным веславанні з 26-гадовым стажам, адзначае, што, па крайняй меры, у веславанні рэзерв спартсменаў ёсць. Невялікі. "Мы не можам утрымаць спартсменаў пасля 18 гадоў. Яны школу заканчваюць… і добра, калі ў вучылішча алімпійскага рэзерву пойдуць. А калі не?" Праблема з наборам у прафесійныя весляры, па меркаванні трэнера, у тым, што зараз мала здаровых, дужых і вынослівых дзяцей. "З тых, хто да нас прыходзіць паспрабаваць сябе ў веславанні, застаюцца займацца 10%, а то і менш", — прыкідвае Аляксандр Папенка.

Трэнер прызнаецца, што знайсці адоранае і вынослівае дзіця мала. Для паўнавартасных трэніровак на базе Брэскага абласнога цэнтра алімпійскага рэзерву па веславанні, дзе займаюцца жаночая і мужчынская нацыянальныя зборныя, не хапае якаснага абсталявання. "У нас для дзяцей закупілі лодкі пад маленькую вагу. Яны не такія трывалыя, як хацелася б. У Асіповічах пачалі рабіць лодкі, але ніхто з трэнераў не задаволены іх якасцю. Лакафарбавае пакрыццё адразу абсыпаецца, падножкі прымацаваны слаба і ламаюцца".

Настаўнік маладых весляроў акрэсліў яшчэ адну праблему — гэта вітамінізацыя спартсменаў. "У нас нават такога артыкула выдаткаў няма. На жаль, у нашым цэнтры алімпійскага рэзерву гэта не прадугледжана, як і ў спартыўных школах. Вельмі добра было б, калі б для спартсменаў высокага ўзроўню існавала вітамінізацыя. Яны вельмі шмат страчваюць энергіі, яе неабходна аднаўляць. Ці ім трэба з'ядаць па кілаграме мяса ў дзень!".

Здольных маладых спартсменаў Аляксандр Папенка стараецца матываваць аповедамі пра нематэрыяльныя перспектывы. "Паездзіш па свеце, даведаешся шмат усяго — гэта цікава! І гэты момант, калі гучыць твой гімн і ўзнімаецца сцяг на спаборніцтвах… калі аж да слёз захапляешся і ганарышся краінай". Хаця не адмаўляе трэнер і важнасці фінансавага заахвочвання. "Быў бы вялікі стымул, канечне. Ну, штосьці перападае… Спартсмены, якія заслугоўваюць, атрымліваюць губернатарскую стыпендыю, ёсць ад прэзідэнцкага клуба стыпендыі, на чэмпіянатах свету выдаюць сертыфікаты. Гэтыя грошы ідуць і як ўзнагароджанне, і на вітамінізацыю. І тым, хто прыцягваецца ў нацыянальную зборную, худа-бедна нешта выдзяляюць".

Ці будуць вынікі ад прэзідэнцкага разносу ў адносінах да спартсменаў, ці выбудуецца ў краіне надзейны ланцужок ад юнацкага спорту да высокіх дасягненняў, мы даведаемся ўжо ў 2014 годзе падчас Алімпіяды ў Сочы і летняй Алімпіяды ў 2016 годзе ў Рыя-ды-Жанейра. А пакуль застаецца спадзявацца на тое, што энтузіязм моладзі і любоў да спорту будуць мацнейшымі, чым трэнерскія міжусобіцы, мізэрныя прэміі і адсутнасць вітамінаў.

**АЛІНА БОРТНІК**

# ПА ЧЫМ ПЕРШАКЛАСНІКІ Ў ЛІТВЕ

**У Вільню з Мінска едуць за марціні і за кавай, за пральнымі парашкамі і адзеннем, шынамі і тэлевізарамі і яшчэ шмат за чым. Ці ёсць сэнс збіраць дзіцёнка ў першы клас таксама ў Літве? Давайце падлічым.**

## РАНЕЦ

Першае, і асноўнае, што патрэбна літоўскаму першакласніку – ранец. Недасведчаныя бацькі могуць разгубіцца: асартымент сапраўды багаты, цэны – на любы густ. Зрабіць правільны выбар дапаможа хіба што веданне таго, якім мусіць быць ранец першакласніка. Асноўныя патрабаванні – вага да 1 кг, цвёрдая эрганамічная спінка, шырокія і мяккія шлейкі. Ранцы, што адпавядаюць гэтым нормам, каштуюць у розных магазінах ад 139 да 339 літаў (адпаведна 40 і 97 еўра). Гэта ранцы жорсткія, што трымаюць форму. А калі разглядаць мяккія, то можна знайсці не даражэй за 70 літаў (20 еўра). Прычым вялікай розніцы, дзе шукаць, няма: кошты на тавар, падобны па якасці, супадаюць і ў спецыяльных крамах канцылярскіх тавараў, і ў супермаркетах, і на базары ці інтэрнэтсайтах. Прынцыповым можа быць толькі памер зніжак, што прапаноўваюць прадаўцы. А зніжкі (на некаторыя ранцы – да 50%) ёсць усюды.



*Школа і для літоўскгаа першакласніка пачынаецца з ранца*

Бацькам з няпростым фінансавым становішчам прапаноўваюць купіць ранцы ў растэрміноўку. А некаторыя прадбачлівыя бацькі зрабілі гэту пакупку загадзя, каб палегчыць вераснёўскія траты. Так, мама першакласніцы Карыны купіла дачцэ ранец яшчэ летась, са зніжкай у 50% за 120 літаў (35 еўра). А напаўняць партфель усім неабходным мы пайшлі разам.

## ШТО Ў РАНЦЫ

Самая дарагая рэч – чарнільная ручка (у пачатковых школах Літвы вучні пішуць выключна пёравымі чарнільнымі ручкамі). Улічваючы дзіцячую здольнасць часта губляць ручкі, бацькам раяць набываць і запасную, на ўсялякі выпадак. Мы пакуль што набылі адну – і так не танна, вырашыла мама Карыны. Чарнільная ручка фірмы Bic з капсулай каштавала 19,99 літаў (6 еўра). Набор зменных капсул – яшчэ 5,99 (каля 2 еўра). Далей па спісе атрымалася:

Фарбы акварэльныя (12 колераў) - 4,99
Гуаш (12 колераў) - 12,99
Пэндзлікі (5 шт) - 4,69
Каляровая папера - 1,09
Кардон каляровы - 2,29
Белы кардон - 2,29
Альбом для малявання фармату А4 - 6,99
фармату А3 - 11,69
Пластылін (12 колераў) - 4,99
Алоўкі каляровыя (12 шт) - 7,99
Фламастары (6 шт) - 3,99
Алоўкі простыя з гумкамі (4 шт) - 2,99
Гумка - 0,69
Клей-аловак - 1,69
Нажніцы - 5,99

*Заканчэнне на стар. 8*

# ПА ЧЫМ ПЕРШАКЛАСНІКІ Ў ЛІТВЕ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 7*

Лінейка (30 см) - 1,29
Сшыткі тонкія (12 старонак)
10 у лінейку - 0,39х10
10 у клетку - 0,45х10
Камплект вокладак для сшыткаў і падручнікаў першакласніка
(у Літве яны прадаюцца спецыяльнымі камплектамі для кожнага класа) - 3,99
Пенал - 40,0

Ад пенала, запоўненага ўсім неабходным (акрамя пёравай ручкі), мы адмовіліся – нязручны ў карыстанні, ды і нецікавы. Дарэчы, такі пенал можна купіць таксама за 40 літаў (12 еўра).

Такім чынам, мы ўкладаліся ў 155 літаў (45 еўра). Мама Карыну моцна не абмяжоўвала ў выбары, але і разганяцца не дазваляла. Ды ў малой і не было патрэбы: канцтавараў у сярэднім цэнавым дыяпазоне багата, выбірай на здароўе. Чаго не скажаш пра школьную форму для Карыны.



*У першы клас – з радасцю!*

## ШКОЛЬНАЯ ФОРМА

Школа, у якую пойдзе Карына, мае сваю ўніформу. Прыгожы сарафанчык у жоўта-зялёна-сінюю клетку каштуе 115 літаў (33 еўра). Пінжак да яго – яшчэ столькі ж. Спадніца – 70 літаў (20 еўра). Кашулька – 39 літаў (11 еўра). Мама з задавальненнем пашыла б сама такую форму, але тканіны з адпаведным малюнкам у Вільні няма. Давядзецца форму купляць.

Пакуль жа ў Карыны з усяго патрэбнага камплекта ёсць толькі калготы, белыя і блакітныя, купленыя са зніжкай за 11 літаў (3 еўра) — першапачатковая цана была 17 літаў. І спартыўная форма: штаны і майка разам каштавалі 80 літаў (23 еўра), кеды – 10 літаў (3 еўра). Кеды купілі ў магазіне, дзе распрадаецца абутак з еўрапейскіх магазінаў.

Прасцей бацькам, ад якіх не патрабуюць апранаць дзяцей ва ўніформу, а проста папярэджваюць, што дзіцё мусіць хадзіць у школу ў адзенні пэўнага колеру. Напрыклад, сінія пінжак і штаны для хлопчыкаў, сарафан ці спадніца з пінжаком – для дзяўчат. Тады выбар шырэйшы, магчымасцей сэканоміць болей. Так, першакласніку Міндаўгасу мама замовіла пашыў касцюма ў атэльє. Пашыў абыдзецца ёй у 160 літаў (46 еўра), напаўшарсцяную тканіну і гузікі купілі за 80 літаў (23 еўра). Такім чынам, касцюм будзе каштаваць 240 літаў (амаль 70 еўра). Крыху даражэй, чым купіць у магазіне: аналагічны касцюм у супермаркеце "Максіма" каштуе сёння 210 літаў (60 еўра), ды яшчэ зніжка на адзенне 30%. Але там касцюм сінтэтычны, што маму Міндаўгаса і не задавальняе.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ШКОЛА!

У некаторых школах ужо збіралі бацькоў першакласнікаў на сходы і расказвалі, якія дадатковыя выдаткі іх чакаюць. Для іншых гэта лічба будзе сюрпрызам. Тым не менш, плаціць давядзецца.

У залежнасці ад школы бацькі першакласнікаў здаюць ад 70 да 140 літаў (20 і 40 еўра адпаведна) на працоўныя сшыткі, у якіх дзеці будуць пісаць на працягу навучальнага года (гэта друкаваныя сшыткі з заданнямі, не блытайце са звычайнымі ў клетку ці лінейку). Падручнікі ў школах выдаюць бясплатна.

Акрамя таго, амаль усюды прапануюць здаць грошы на сродкі гігіены: папяровыя ручнікі, мыла, туалетную паперу – мінімум 10 літаў (3 еўра) давядзецца аддаць. Ну а на што яшчэ прапануюць сабраць – гэта ўжо вельмі індывідуальна, лічбы могуць адрознівацца на сотні літаў у залежнасці ад школы. Што праўда, могуць ні на што болей і не збіраць, акрамя хіба грошай дзецям на розныя падарункі на святы.

## СВЯТА ПАВІННА БЫЦЬ З ПАДАРУНКАМІ

Так лічаць у суседніх з Літвой Латвіі і Эстоніі. Ад пачатку жніўня ўсе першакласнікі Латвіі змогуць атрымаць мабільныя тэлефоны ў падарунак. Ужо трэці год запар такую акцыю праводзіць у краіне аператар Tele2.

У падарачным камплекце – тэлефон "Nokia 100" і стартавы камплект для размоў за 0,99 Лс. (1,5 еўра) Каб атрымаць падарунак, бацькам трэба ўсяго толькі паказаць пашпарт і пасведчанне аб нараджэнні дзіцяці.

Са свайго боку бацькі абавязваюцца папаўняць крэдыт карты папярэдняй аплаты не меней, чым на 1,75 Лс (каля 3 еўра) кожны месяц на працягу года.

У Эстоніі таксама зрабілі падарункі першакласнікам, праўда, не ўсім. Свой першы школьны ранец атрымалі 365 першакласнікаў са шматдзетных сем'яў. У кожным ранцы – усе неабходныя для першакласніка рэчы. Кошт аднаго ранца склаў каля 120 еўра.

**ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА, ВІЛЬНЯ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 30.08.12
Тыраж 299 экзэмпляраў